Гродна
№4 (486),
18 лютага 2018
www.slowo.grodnensis.by

# Слова Жыцця

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



# Крыжовы шлях – дарога ў вечнасць


Інсцэніраваны крыжовы шлях у парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы

Папяльцовай серадой у Касцёле распачаўся Вялікі пост. У добрым перажыванні пакаяннага перыяду вернікам садзейнічае ўдзел у набажэнстве Крыжовага шляху. Чаму так важна не абмінуць яго ўвагай, і які плён здабывае чалавек, засяроджана чэрпаючы са шматвекавой традыцыі?

працяг на с. 4



Іерархі падчас сустрэчы ў Кангрэгацыі па справах біскупаў

# Вынікі візіту ad limina Apostolorum 2018

**З 31 студзеня па 7 лютага ў Ватыкане праходзіў 4-ты ў гісторыі Касцёла ў Беларусі візіт біскупаў ad limina Apostolorum. Рэдакцыя “Слова Жыцця” распавядае, як гэта было і якую ацэнку атрымаў наш Касцёл у ведамствах Святога Пасаду.**

працяг на с. 6

**“У Вялікім посце мы становімся больш адчувальнымі на Бога і на бліжняга”. Папа Францішак**

# Разважанні з Божым словам

**І НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Мк 1, 12–15**

Дух вывеў Езуса ў пустыню. І быў Ён у пустыні сорак дзён, дзе Яго выпрабоўваў сатана; і быў са звярамі, і Анёлы служылі Яму. Пасля ж таго, як выдалі Яна, прыйшоў Езус у Галілею, прапаведуючы Евангелле Божае і кажучы, што настаў час і наблізілася Валадарства Божае: кайцеся і верце ў Евангелле.

## НЕ ПАДДАДЗІМСЯ НАМОВАМ Д'ЯБЛА!

Мы часта прыкладваем намаганні, каб змагацца з якім-небудзь недахопам, слабасцю, залежнасцю. Гэта добрая і патрэбная ініцыятыва, бо кожнаму чалавеку неабходна ачышчэнне, навяртанне і аднова. Чарговы Вялікі пост з'яўляецца цудоўнай нагодай, каб паспрабаваць зрабіць штосьці большае, калі засяроджваемся не толькі на выдаленні зла, але таксама на развіцці духоўнай прасторы.

Многія могуць са скрухай сказаць, што вельмі часта ім не ўдавалася стрымаць свае пастановы. Аднак трэба разумець, што вынік нашых намаганняў – справа не толькі людская. На пачатку гэтай 40-дзённай вандроўкі давайце паабяцаем сабе, што кожны дзень будзем скіроўвацца "на пустыню", каб услухацца ў Божы голас, падобна як Езус, які знаходзіўся ў пустыні, каб трываць у прысутнасці Айца. Не паддадзімся д'яблу і яго намовам! І тады Усемагутны аб'явіць нам, што і як павінны рабіць, навучыць адрозніваць сапраўднае дабро ад ілюзій.

**Ці зрабіў я ўжо вялікапосную пастанову?**

**Ці стараюся слухаць голас Пана Бога?**

**ІІ НЯДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ПОСТУ**
**Мк 9, 2–10**

Езус узяў Пятра, Якуба і Яна і павёў на высокую гару асобна іх адных. І перамяніўся перад імі. Адзенне Ягонае сталася бліскучым і вельмі белым, як ніводзін валюшнік на зямлі не можа выбеліць. І аб'явіўся ім Ілля з Майсеем і гутарылі з Езусам.

І на гэта Пётр сказаў Езусу: "Раббі, добра нам тут быць, таму зробім тры шатры: адзін Табе, адзін Майсею і адзін Іллі". Бо не ведаў, што сказаць, таму што яны спалохаліся. І з'явілася воблака, якое закрыла іх, і з воблака пачуўся голас: "Гэта Сын Мой умілаваны, Яго слухайце".

І адразу, калі яны агледзеліся навокал, ужо нікога не ўбачылі, апроч аднаго Езуса. Калі сыходзілі яны з гары, загадаў ім нікому не казаць, што яны бачылі, пакуль Сын Чалавечы не ўваскрэсне з мёртвых. І захавалі наказ, разважаючы між сабою, што значыць "уваскрэснуць".

## ТВАР БОЖАГА ЧАЛАВЕКА

Кожны складаецца з пылу зямлі і подыху Усемагутнага. Місія чалавека заключаецца ў няспынным самапазнанні, адкрыцці ў сабе таго, што Божае. Воблік асобы ствараюць думкі, учынкі, перажыванні, унутраная барацьба і людскія адносіны. Таму мець твар Божага чалавека – зусім не лёгкая справа. Мы ўвесь час павінны старацца, каб нашыя твары ззялі радасцю, любоўю, лагоднасцю, чысцінёй, каб не саромецца паказваць сваё аблічча Богу і людзям.

Перыяд Вялікага посту з'яўляецца часам выпраўлення свайго ўнутранага выгляду, духоўнага стылю жыцця. У гэтай справе вялікае значэнне для кожнага з нас мае месца Перамянення Езуса Хрыста – гара Фавор. Гледзячы на аблічча Хрыста, павінны ўбачыць у люстэрку Пана ўласнае аблічча. Такім чынам, у часе Вялікага посту давайце паклапоцімся пра тое, каб на нашых тварах адлюстроўваўся бляск Збаўцы, каб ён з'яўляўся адбіткам нашай чыстай душы, закаханай у Стварыцеля.

**Ці клапачуся я пра свой унутраны выгляд?**

**Ці магу адкрыць у сабе тое, што Божае?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

**Слова рэдактара**



*Кс. Юрый Марціновіч*

# Паглядзім у вочы Езусу!

*У літургічным годзе Вялікі пост, ці перыяд пакаяння напярэдадні Вялікадня, на працягу 40-ка дзён дапамагае вернікам падрыхтавацца да пасхальных урачыстасцей. Прыгадвае пра тое, што паводле Бібліі Ізраэль, народ Старога Запавету, перш чым змог увайсці на Абяцаную зямлю, на працягу 40-ка гадоў перажываў выпрабаванні і ачышчэнне ў пустыні, а Езус перад распачаццем публічнай дзейнасці на працягу 40-ка дзён быў у пустыні, посцячы і молячыся да Айца.*

Пост з'яўляецца часам глыбокіх перажыванняў, вялікіх навяртанняў, шчырых медытацый і разважанняў над сваім штодзённым жыццём. Часам гучных удараў у грудзі, прызнання памылак і планавання духоўнай будучыні. Часам, каб звярнуць з дарогі, што вядзе ў тупік, каб парваць са старымі звычкамі, што цягнуць да зямлі. Часам адмаўлення ад уласных планаў і намераў, каб здолець прыняць і рэалізаваць Божую волю. Часам, які дапамагае перажыць Вялікдзень як сапраўднае свята перамогі Езуса Хрыста над смерцю, пеклам і д'яблам.

Паводле біблейскай традыцыі, пост – гэта пакорнае "прыніжэнне сваёй душы" (параўн.: Сір 2, 17), нягледзячы на інтэлектуальны ўзровень асобы, ачышчэнне, прынцыпе паставы залежнасці ад Усемагутнага і падрыхтоўка да сустрэчы з Ім (параўн.: Лев 16, 29–31). Чалавек веры, жадаючы прынізіць самога сябе перад Богам, адначасова прагне адкрыць Яго волю ў сваім жыцці і быць кіруемым Яго Духам. Бог жа хоча ўзняць чалавека, падтрымаць, паказаць, што Яго ласка эфектыўная, калі толькі дазволіць Яму дзейнічаць.

Гэты блаславёны час вельмі дапамагае асабліва тады, калі адчуваем недахоп Божай прысутнасці. Таму неабходна прысвяціць Вялікі пост працы над сабой, каб вярнуцца да Пана, нанова адчуць прысутнасць Усявышняга ў сваім жыцці і адкрыцца на Яго збаўчае ўздзеянне. Падчас споведзі варта агаворваць як поспехі, так і паражэнні ў нашай унутранай працы. Каб не разбудзіці пыху, абавязкова трэба сабе прыпамінаць, што ўсе дасягненні паходзяць ад Пана, бо гэта Ён дае прабачэнне, Ён напўняе нас моцай для барацьбы.

Перыяд пакаяння можа мець розныя віды. Аднак незалежна ад таго, ці адмаўляемся спажываць некаторыя прадукты, ці пазбягаем некаторых відаў дзейнасці, ахвяруем грошы ці час, ён надалей застаецца формай любові Бога і чалавека. "Калі хто любіць Мяне, той захоўвае слова Маё, і палюбіць таго Айцец Мой, і прыйдзем да яго, і зробім жыллё ў яго" (Ян 14, 23).

**Дарагія Чытачы!**

Няхай у гэты час кожны з нас знойдзе адпаведную хвіліну на малітву ў святыні ці ў цішыні ўласнага дома. Давайце прынізімся і паглядзім у вочы Хрыста, поўныя любові і прабачэння. Прымем удзел у Крыжовым шляху, рэкалекцыях, Песнях жальбы. Гэтыя вялікапосныя практыкі спрыяюць каштаванню своеасаблівага клімату, дзякуючы якому нам удаецца асягнуць гармонію з Богам.




# Св. Палікарп Смірнскі: заступнік церпячых праследаванне



**У іканаграфіі св. Палікарп прадстаўлены як мучанік ці як біскуп.**

***Належыць да кола Апостальскіх Айцоў, якія дэпазіт веры і пераемнасць Традыцыі прынялі з рук бліжэйшых вучняў Хрыста. Да самага канца старанна абараняў артадаксальнасць, упэўніваючы ў ёй сваю паству. Аддаў жыццё за веру ў Езуса.***

**СПЯВАЎ НА КАСТРЫ**

Дакладнае месца нараджэння святога невядома. Хутчэй за ўсё, гэта была Азія, паколькі ведаем, што евангеліст Ян скіраваў яго на навучанне ў Смірну (сёння горад Ізмір у Турцыі), дзе пазней той стаў ардынарыем. Ва ўзросце 30-ці гадоў прыняў святарскія пасвячэнні. Біскупскую сакру – паводле сведчання Тэртуліяна і Геранiма – яму ўдзяліў умілаваны вучань Хрыста.

Вернікі дыяцэзіі вельмі паважалі біскупа Смірны. Аднак язычнікі здолелі падбухторыць натоўп супраць яго. Нагодай для гэтага сталі ганенні на хрысціян, распачатыя вядомым, але яшчэ не здольным зразумець "рэлігію Назараніна" імператарам-філосафам Маркам Аўрэліем.

Вернікі пераканалі біскупа ўцячы з горада. Але ён зрабіў гэта хутчэй дзеля сваёй паствы, чым дзеля самога сябе. На жаль, імператарская памагатыя ў рэшце рэшт знайшлі біскупа ў вясковым доме, дзе хаваўся. Старац прывітаў іх спакойна, нават запрасіў праследавацеляў на абед. Даў зразумець, што ведае, навошта яны прыйшлі, і гатовы да смерці. Сам жа толькі папрасіў гадзіну, каб памаліцца.

Суддзя звярнуўся да яго з традыцыйнай у імперыі прапановай: "Вырачыся Хрыста, прамоў багахульства супраць Яго і запалі кадзіла ў гонар нашых багоў, каб застацца жывым". Аднак св. Палікарп больш чым зямнога жыцця прагнуў дасягнуць вечнасці, якая чакала за брамамі гэтага апошняга на зямлі цярпення. Ён вызнаў, што на працягу многіх гадоў служыць Хрысту Валадару і не пакіне Яго святую веру. На пагрозу суддзі аб тым, што будзе спалены зажыва, ахвотна пагадзіўся, бо раней атрымаў ад Бога абяцанне, што Усемагутны дадасць яму мужнасці падчас кары. Сказаў тады, што не баіцца агню, які гасне, аднак існуе і нязгаснае полымя, пра якое не ведаюць шанавальнікі ідалаў.

Калі святы ўвайшоў у палаючы касцёр, здарыўся цуд – полымя агарнула яго постаць, не датыкаючыся і не шкодзячы целу. Раз'юшаныя язычнікі сталі крычаць, каб старца прабілі дзідай. Гэта і было ўчынена. Згодна з паданнем, з грудзей біскупа вылілася столькі крыві, што яна згасіла агонь.

**ЧАМУ МЫ МОЖАМ НАВУЧЫЦЦА Ў СВ. ПАЛІКАРПА?**

Святы заклікаў хрысціян да еднасці, ласкі і стойкасці ў веры. Заахвочваў да ўзаемнай любові і пазбаўлення ад усіх прадузятасцей адносна іншага чалавека. Сёння гэты заклік асабліва актуальны. Сучасны чалавек патрабуе трывання ў Божай міласці, а таксама супакою і любові ў сям'і і акружэнні.

**ЦІКАВА!**

Св. Палікарп упершыню для таго, каб акрэсліць меншую хрысціянскую супольнасць, ужыў слова "paroikia", што паходзіць ад грэчаскага дзеяслова, які азначае "жыць сярод чужых". Ад яго пасля і ўтварылася паняцце "парафія".

**З ВУСНАЎ СВЯТОГА**

"Давайце заўсёды будзем з Тым, хто з'яўляецца нашай надзеяй і задаткам нашай справядлівасці, з Езусам Хрыстом, які ў сваім целе панёс нашыя грахі на дрэва, які не ўчыніў граху, а ў Яго вуснах не было падману. Ён для нас, каб мы жылі, выцерпеў усё" (Ліст да Касцёла ў Філіпах).

**ЛІТУРГІЧНЫ ЎСПАМІН**

Касцёл узгадвае св. Палікарпа Смірнскага 23 лютага.

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Гісторыя, напісаная сэрцам

***Успаміны і перажыванні старэйшага пакалення – гэта жывы ўрок гісторыі для маладых людзей. Дастаткова часта жыццё нашых бабуль і дзядуль, нібы такое звычайнае і простае, напоўнена цяжкасцямі і цярпеннем. Аднак ніколі ў гэтых людзей не было недахопу сіл і мужнасці, каб з унутранай рашучасцю абараняць свае каштоўнасці і веру, жыць, у першую чаргу, не для сябе, а для Бога.***

***Сёння “накіроўваемся” ў мястэчка Адэльск, каб пазнаёміцца з Антоніем Пясэцкім. Карэнны адэльшчанін наблізіць нам некаторыя старонкі гісторыі мясцовай парафіі, каб памяць пра іх не знікла.***



Узнагарода сям'і Пясэцкіх з апостальскім благаслаўленнем Папы Рымскага Яна Паўла II

Мястэчка Адэльск і касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі – гэта мая родная парафія. Тут у 1929 годзе я з’явіўся на свет. Выхоўваўся ў каталіцкай сям’і, дзе кожны песціў у сваім сэрцы веру ў Бога. Можа таму, будучы яшчэ малым хлопцам, я пачаў служыць у касцёле як міністрант. Бачыў там людзей, якія шчыра маліліся, прыступалі да святых сакрамантаў, даручалі сваё жыццё Хрысту і будавалі парафіяльную сям’ю.

Пасля пачатку II Сусветнай вайны адэльшчане павінны былі змірыцца з нялёгкім выклікам – захаваць сваю веру падчас ганенняў, зрабіць усё, каб нікому не ўдалося перамяніць парафію ў духоўную пустыню. Самым складаным перыядам сталі 50-я гады, калі католікі рашуча змагаліся з крымінальнай камуністычнай сістэмай. У той час савецкія ўлады пачалі сістэматычна знішчаць касцёльныя структуры на тэрыторыі Беларусі. Ліквідаваліся святыні, асобныя супольнасці пазбаўляліся духоўных кіраўнікоў – іх душпастыраў.

У 1955 годзе ў адэльскую парафію нарэшце прыбыў святар – кс. Пётр Барташэвіч. Гэта быў малады чалавек, які перажыў сібірскія лагеры. Аднак, нягледзячы на гэта, меў вельмі пазітыўны настрой і любіў дзейнічаць. Арганізаваў у парафіі хор, да якога належаў і я, літургічную службу алтара, якую складалі каля 40-ка міністрантаў. Кс. Пётр клапаціўся пра духоўнае развіццё хлопцаў, вучыў паводзінам падчас св. Імшы, таксама правяраў вынікі вучобы ў школе і нават хадзіў з імі на стадыён. Сёння з упэўненасцю магу сказаць, што ўсе міністранты выраслі прыстойнымі людзьмі, таму што будавалі сваё жыццё на моцным фундаменце, закладзеным у іх кс. Пятром.


Кс. Пётр Барташэвіч

Святар шмат часу прысвячаў выхаванню, хрысціянскай і людской фармацыі маладога пакалення. Быў вельмі актыўны, працавіты і адважны. Людзі цягнуліся да яго, паколькі святар заўсёды меў час, каб паразмаўляць з чалавекам. Не толькі даваў добрыя духоўныя парады, але і дапамагаў у вырашэнні пэўных штодзённых праблем. Дзверы яго дома заўсёды былі адчынены.

Безумоўна, такі расклад не падабаўся савецкім уладам, і таму яны пастанавілі перавесці нашага пробашча ў іншую парафію. Святару прапанавалі розныя месцы служэння, але ён не хацеў выязджаць з мястэчка. Сказаў, што пакіне Адэльск толькі пры ўмове, што на яго месца прыйдзе іншы святар. У 1963 годзе кс. Пётр быў прызначаны пробашчам у Жалудку, а ў нашу парафію накіравалі кс. Фелікса Сароку.

Шчырасць і зычлівасць кс. Пятра я памятаю да сёння. Гэта ён удзяліў нам з жонкай шлюб, ахрысціў дзяцей: 4-ых сыноў і дачушку. Усе яны праз катэхезу былі падрыхтаваны да прыняцця святых сакрамантаў. Я нязмерна ўдзячны святару за духоўную апеку над нашай сям’ёй.


У дзень святарскіх пасвячэнняў кс. Тадэвуша Кандрусевіча (Антоній Пясэцкі ў першым радзе другі злева)

Калі дзеці хадзілі ў школу, там праводзіліся прапагандысцкія атэістычныя акцыі. Вучням забаранялася хадзіць у касцёл. Настаўнікі запісвалі прозвішчы тых, хто ўдзельнічаў у нядзельнай св. Імшы, і потым каралі іх. Аднак, нягледзячы ні на што, мы стараліся выхоўваць сваіх дзяцей у рэлігійным духу.

Я сам ніколі не ўваходзіў у камуністычную партыю, хоць мяне неаднаразова запрашалі. Памятаю, у 1964 годзе ў калгасе сабралі добры ўраджай, перадавікам выдзелілі прэміі. З гэтай нагоды ў мястэчку павінна было адбыцца свята працаўнікоў сельскай гаспадаркі. Пачатак быў запланаваны на тую ж гадзіну, што і св. Імша ў касцёле, непадалёку ад святыні. Улады разлічвалі, што замест таго, каб пайсці ў касцёл, людзі збяруцца ў парку, але груба памыліліся. Ніхто не хацеў “замяняць” Бога на дыпломы і грашовае ўзнагароджанне. Кіраўніцтва калгаса вельмі раззлавалася, і прэміі нікому не выдалі. Але гэты выпадак стаў для іх добрай навукай на будучыню.

У наступныя гады такія мерапрыемствы планаваліся так, каб яны не супадалі па часе са св. Імшой, і было добра. Успамінаючы тыя гады прыгнёту, мне думаецца, што мы вытрымалі толькі дзякуючы таму, што трымаліся разам. Голад Бога быў такі вялікі, што не адчайваліся з-за няўдач, і ніякія ганенні не маглі нас запалохаць.

Жыхароў Адэльска часта крытыкавалі за тое, што яны з’яўляюцца сапраўднымі католікамі. Не саромеюцца, не хаваюцца, а адкрыта дэманструюць сваю веру. Некаторыя партыйныя называлі нас “адэльскімі багамоламі”. Але былі і такія, хто ўспрымаў нас як нармальных, добрасумленых людзей. Аднойчы ў размове старшыня калгаса з суседняй вёскі шчыра мне прызнаўся, што калі б меў такіх добрых працаўнікоў у сябе, то нават расчысціў бы ім зімой дарогу да касцёла.

Міналі чарговыя гады, якія прыносілі карэнныя змены ў сістэме савецкай дзяржавы. Надышла гарбачоўская перабудова. І тады ў нашых сэрцах абудзілася надзея, што Касцёл, які столькі гадоў знішчаўся, нанова адродзіцца і ажыве. Так і сталася. Сёння наша святыня вядома далёка за межамі мясцовасці. Штогод падчас адпусту св. Антонія, апекуна парафіі, тлумы вернікаў наведваюць адэльскі касцёл.

Я ганаруся тым, што маё пакаленне годна перажыло цёмныя і трагічныя гады, што нас не ўдалося адарваць ад Касцёла. Мы трывалі ў веры, абаранялі яе падчас праследаванняў і перадавалі маладому пакаленню адэльшчан. На шчасце, сёння ўжо не трэба хаваць веру на дне свайго сэрца, можна яе публічна вызнаваць.

Дзякуючы намаганням парафіяніна Станіслава Будрэвіча і ўсіх вернікаў Адэльска ўдалося замяніць назву адной з цэнтральных вуліц нашага мястэчка на вуліцу імя Тадэвуша Кандрусевіча. Праслаўляем Бога, паколькі вялікія рэчы Ён нам учыніў і цяпер вядзе ў новае заўтра. Спадзяёмся, што наступныя пакаленні адэльшчан застануцца вернымі Хрысту і традыцыям сваіх продкаў.

*Натавала*
*Кінга Красіцкая*

## СЛОВА для жыцця

### *Папа Францішак*



*Зноў набліжаецца Пасха Пана! Каб падрыхтавацца да яе, кожны год Божы Провід дае вернікам Вялікі пост – “сакраментальны знак нашага навяртання”, які прадвяшчае і рэалізуе магчымасць навярнуцца да Пана цэлым сэрцам і ўсім жыццём.*

*У гэтым годзе я прагну дапамагчы Касцёлу радасна і па-сапраўднаму перажыць гэты час ласкі; а натхняюся ў тым словамі Езуса: “А з-за таго, што пашырыцца беззаконне, любоў многіх астыне” (Мц 24, 12). [...] Я хацеў бы, каб мой голас выйшаў за межы Каталіцкага Касцёла і дасягнуў усіх Вас, мужчыны і жанчыны добрай волі, адкрытыя на Бога. Калі Вы, як мы, засмучаныя распаўсюджваннем зласлівасці ў свеце, калі Вас турбуе заледзяненне, якое паралізуе сэрца і дзеянні, калі Вы бачыце, што слабне пачуццё агульнай чалавечнасці, далучыцеся да нас, каб разам маліць Бога, пасціцца і разам, наколькі можам, дапамагаць братам!*

*Фрагмент паслання на Вялікі пост 2018*

### *Кс. бп Аляксандр Кашкевіч*



*У Вялікі пост мы запрошаны нанова ўзяць на сябе высілкі асабістага навяртання. Ужо сёння задумаемся, якія велікапосныя пастановы прымем у гэтым годзе, каб дадзены час ласкі не прайшоў бясплённа, а дапамог нам аднавіцца ўнутрана і яшчэ больш наблізіцца да Бога.*

*Традыцыя Касцёла апавядае, што ў барацьбе з грахом і ў пераадоленні ўласных слабасцей асабліва дапамагаюць малітва, пост і міласціна. Пастараемся выкарыстаць перыяд Вялікага посту як нагоду да паглыблення нашага жыцця малітвы. Акрамя нядзельнай св. Імшы будзем прымаць удзел у прыгожых, асвечаных шматвяковай традыцыяй набажэнствах Песень жальбы і Крыжовага шляху, якія дапамагаюць у разважанні над таямніцамі Мукі Пана. Добра будзе, калі ў Вялікі пост мы паклапоцімся аб супольнай малітве ў сям’і, аб чытанні Святога Пісання, аб удзеле ў Эўхарыстыі таксама ў звычайныя дні. Не забудземся і пра абавязак прымаць удзел у парафіяльных рэкалекцыях, прыступаць да сакраманту паяднання і прымаць св. Камунію. Кожная форма малітвы набліжае нас да Бога, узбуджае ў сэрцы любоў да Яго, удзячнасць і пакору, аберагае ад пыхі і эгаізму.*

*Вялікі пост – гэта таксама час змярцвення, ці выхавання волі праз добраахвотнае адмаўленне ад таго, што непатрэбнае, залішняе або шкоднае, што ўскладняе духоўнае жыццё і можа прыводзіць да залежнасці. [...] Міласціна дапамагае вызваліцца ад абыякавасці, эгаізму і залішняй прывязанасці да матэрыяльных даброт, а разам з тым робіць нас больш чулымі да патрэб бліжніх.*

*Фрагмент Пастырскага ліста на Вялікі пост 2018*



*◆ Велікапосныя рэкалекцыі для Святога Айца і Рымскай курыі, якія будуць доўжыцца з 18 па 23 лютага, правядзе 53-гадовы партугальскі святар, кансультант Папскай Рады па справах культуры, віцэ-рэктар і выкладчык Лісабонскага каталіцкага ўніверсітэта, тэолаг і паэт кс. Хасэ Таленціна дэ Мендоса. Тэма духоўных практыкаванняў – "Пахвала і прага". Як і ў папярэдні гады, рэкалекцыі пройдуць у "Casa Divin Maestro" ("Дом Боскага Настаўніка"), што ў Арычы, у 30-ці кіламетрах ад Рыма. У гэтыя дні не будзе ніякіх публічных мерапрыемстваў з удзелам Пантыфіка.*

*◆ Аднаўлены любімы абраз папы Францішка "Salus Populi Romani" ("Выратаванне рымскага люду"), што знаходзіцца ў базіліцы Маці Божай Вялікай. Гэта вобраз Марыі з Дзіцяткам Езус, перад якім Святы Айцец моліцца кожны раз перад дарогай і па завяршэнні чарговага замежнага паломніцтва, пакідаючы Ёй букет белых руж. Акрамя самога абраза, аднаўлена і зашклёная вітрына, якая аблягчае транспарцiроўку твора сакральнага мастацтва на розныя касцёльныя ўрачыстасці.*

*◆ Дзякуючы стараннямі польскіх місіянераў, у Баганду (Цэнтральнаафрыканская Рэспубліка) быў кансэкраваны касцёл св. Пятра. Ва ўрачыстасцях прынялі ўдзел каля 1,5 тысячы вернікаў. Некаторыя прыйшлі пешшу, пераадолеўшы агулам больш за 100 кіламетраў. Будаўніцтва святыні працягвалася з 2013 года. Яна была фактычна "прывезена" з Польшчы, пачынаючы з табернакля і алтара, заканчваючы пакрыццём для даха. Некаторыя дэталі былі дастаўлены самалётам, некаторыя – на караблі.*

*◆ Да канца мая ў Ірландыі плануецца правесці дзяржаўны рэферэндум па пытанні змены дзеючых прадпісанняў адносна абортаў, якія прыраўніваюць правы ненароджанага дзіцяці да правоў маці. Цяперашні закон аб праве перапыніць цяжарнасць дапускае аборт толькі ў выпадку пагрозы жыццю маці (але не ў выпадку згвалтавання, кровазмяшэння або цяжкага пашкоджання плоду). Нядаўна апублікаванае ў газеце "The Irish Times" апытанне паказала, што 56% ірландцаў хочуць увесці змены ў заканадаўства адносна абортаў, 29% – супраць гэтага.*

*◆ У пачатку бягучага года больш за 4 мільярды людзей на нашай планеце (з агульнага ліку каля 7,6 мільярдаў) мелі доступ да інтэрнэту. Такія дадзеныя прадставіла арганізацыя "We Are Social і Hootsuite". З прадстаўленых матэрыялаў вынікае, што найбольшы поспех маюць сацыяльныя сеткі і парталы, да якіх звяртаюцца амаль 3,2 мільярды карыстальнікаў (на 13% больш, чым год таму). На 14% павялічылася карыстанне гэтымі ж рэсурсамі пасродкам мабільных прылад. Мяркуецца, што за бягучы год людзі ва ўсім свеце правядуць онлайн сумарна каля мільярда гадоў, з чаго 325 мільёнаў год – у адных сацсетках.*

*credo.pro; deon.pl; niedziela.pl*

# КРЫЖОВЫ ШЛЯХ – ДАРОГА Ў ВЕЧНАСЦЬ



*Святая Гара ў Ашмянах, дзе мясцовыя вернікі кожны год усталёўваюць новы крыж*

● *працяг са с. 1*

### ГІСТОРЫЯ КРЫЖОВАГА ШЛЯХУ

Традыцыя велікапоснага набажэнства бярэ пачатак у першых стагоддзях хрысціянства. Напярэдадні гадавіны ўваскрасення Езуса Яго паслядоўнікі здзяйснялі паломніцтвы ў Святую Зямлю і шукалі сведчанні жыцця Збаўцы. Але з пашырэннем хрысціянства ў свеце далёка не ўсе мелі магчымасць прымаць удзел у маліто̂ўных працэсіях вуліцамі Іерусаліма. Такім чынам, сталі распаўсюджвацца духоўныя паломніцтвы ў Святую Зямлю.

У сярэднія вякі папулярнасць набралі т. зв. Кальварыі (ад лац. "Calvaria" – "Галгофа"). Вернікі выбіралі ў сваёй мясцовасці ўзвышаную тэрыторыю, якая б сімвалічна нагадвала пра месца ўкрыжавання Бога-Чалавека. Будавалі там капліцы або змяшчалі скульптуры на сюжэт Пакут Хрыста. Часам тут можна было натрапіць на сцяжынкі, якія вядуць да журботнай фігуры Найсвяцейшай Маці. Гэта сведчыць аб тых рэлігійных акцэнтах, што былі характэрны для дадзенай мясцовасці.

Паступова зарадзіліся і стацыі Крыжовага шляху. Вернікам хацелася не толькі засяродзіцца на ўспамінах мінулых падзей, але і мець магчымасць больш глыбока перажываць пакуты і смерць Езуса. Перажываць так, каб гэта магло змяніць іх жыццё і дапамагчы ўзрастаць у Богу. Сёння барэльефы ці абразы з выявамі стацый Крыжовага шляху змяшчаюцца па перыметры ў кожным касцёле ці капліцы. Часам яны могуць быць усталяваны і звонку святыні.

У традыцыі Касцёла таксама вельмі распаўсюджаны публічны Крыжовы шлях вуліцамі горада, экстрымальны, інсцэніраваны. У 1931 годзе папа Пій XI дазволіў здзяйсняць набажэнствы Крыжовага шляху перад распяццем для хворых і знявolеных.

### ДУХОЎНЫ САЎДЗЕЛ У МУКАХ ХРЫСТОВЫХ

Крыжовы шлях "уключае" нас у гісторыю збаўлення. Нагадвае пра тое, што кожны з'яўляецца яе часткай. На крыжы – пакуты, боль і грахі ўсяго чалавецтва. Але ў той жа час і надзея на вечнае жыццё, атрыманая праз перамогу Езуса над смерцю. Толькі ва ўкрыжаваным і ўваскрослым Хрысце можам здабыць выратаванне і адкупленне.

Перажыванне Крыжовага шляху вучыць нас давяраць Богу, быць адкрытымі на Яго любоў, упэўненымі ў ёй. Нагадвае, што Хрыстос цярпіць разам з намі. Вучыць таксама глядзець з цяплынёй і пяшчотай на іншых, асабліва на тых, хто пакутуе, мае патрэбу ў падтрымцы і дапамозе.

Кожны вернік праз перажыванне Крыжовага шляху можа атрымаць поўны адпуст. Для гэтага трэба выканаць наступныя ўмовы:

- ***адправіць гэтае набажэнства ў месцы, дзе ўстаноўлены Крыжовы шлях (у касцёле, на прыкасцёльным пляцы і да т. п.);***
- ***разважаць Муку Пана Езуса (зместам разважання не абавязкова павінны быць стацыі);***
- ***пераходзіць ад адной стацыі да другой.***

### КРЫЖОВЫ ШЛЯХ У ЖЫЦЦІ СВЯТЫХ

Часткова дасведчыць пакуты ўкрыжавання Езуса давялося некаторым Яго вызнаўцам, на целе якіх з'яўляліся стыгматы. Часцей за ўсё яны ўтвараліся цудоўным чынам у месцах 5-ці ран Адкупіцеля: на далонях (запясцях), ступнях і ў баку. Аднак часам выяўляліся і на іншых частках цела (сляды цярновага вянка на ілбе, след ад крыжа на плячы і інш.). Раны маглі сыходзіць крывёй пастаянна ці перыядычна, у пэўны час (напрыклад, гадзіна смерці Божага Сына, пятніца як дзень укрыжавання, перыяд Вялікага посту). Праз стыгматы святыя злучаліся з болем Хрыста і ахвяравалі свае цярпенні на алтар збаўлення чалавецтва.

Лічыцца, што ўпершыню сляды святых ран з'явіліся ў св. Францішка з Асізі. "Здавалася, што і рукі яго, і ступні ў самой сярэдзіне былі наскрозь працяты цвікамі. Так, што след ад шляпкі цвіка паказаўся на ўнутраным баку рук і на вонкавым баку ступняў, а лязо нібы выйшла з адваротнага боку, паколькі след ад шляпкі цвіка быў чорным і круглявым, а ад ляза – выцягнутым і вывернутым, як калі б у гэтым месцы нацягнулася, паднялася і прарвалася плоць, а вакол плоць адступіла і запала. На правым яго баку, нібы прабіты кап'ём, успушыўся барвовы рубец, з якога часта сачылася святая кроў, абрашаючы туніку яго і штаны" ("Вытокі францысканства").

З таго часу налічваецца больш за 300 выпадкаў з'яўлення ў людзей стыгматаў, якія на сёння прызнаны Касцёлам сапраўднымі. Іх мелі, сярод іншых, св. Кацярына Сіенская, св. Ян Божы, св. Марыя Лопэс дэ Рывас, св. Піо з П'етрэльчыны.

Некаторым Хрыстос прыадкрываў падзеі Вялікай пятніцы, даючы магчымасць дакрануцца да Яго святых ран. У іх ліку была і св. Фаўстына Кавальская, якая ўсе свае цярпенні ахвяравала дзеля выратавання свету. "Сёння ў час Мукі я ўбачыла спакутаванага Езуса, укаранаванага цернем, з трасцінай у руцэ. Езус маўчаў, а салдаты спяшаліся навыперадкі, каб мучыць Яго. Езус нічога не казаў, толькі пaглядзеў на мяне. І ў гэтым позірку я адчула такія сташныя пакуты, што мы нават паняцця не маем, што вытрымаў Езус за нас перад укрыжаваннем..." (Дз. 948).



*Мужчыны нясуць крыж на плячах, ні разу не апускаючы яго на зямлю*

**Кожны з нас, суперажываючы Хрысту, імкнецца ўсвядоміць маштаб Яго ахвяры. Удзел у набажэнстве Крыжовага шляху дапамагае асягнуць таямніцу пакуты Божага Сына, а таксама адкрыцца на перажыванне ўсіх гэтых стацый у сваім жыцці, атрымліваючы багаты плён для душы.**

*Ангеліна Пакачайла*



***Кс. Андрэй Бялаблоцкі,*** *вікарый парафіі Святога Духа ў Гродне*

*У мінулым годзе падчас Вялікага посту мне давялося сыграць ролю Езуса падчас інсцэніраванага Крыжовага шляху ў Вялікай Бераставіцы. Акурат тады ў мясцовай парафіі Перамянення Пана я праходзіў дыяканскую практыку. Да гэтай падзеі рыхтаваўся адказна: стараўся засяродзіцца, маліўся. Напярэдадні глядзеў "Страсці Гасподнія". Імкнуўся, наколькі гэта магчыма, наблізіць людзям пакуты Крыжовага шляху нашага Збаўцы.*

*Моцна хацеў адчуць сябе на месцы Езуса. Але... крыж быў не надта цяжкі, церні не ўпіваліся мне ў галаву і, урэшце рэшт, я не быў бічаваны. Таму, вядома, чалавек не можа сабе ўявіць нават і кроплі таго, што перажываў Хрыстос перад укрыжаваннем. Аднак у той час, калі не маем магчымасці злучыцца з цярпеннем Адкупіцеля ў фізічным плане, павінны няспынна адкрываць для сябе гэты момант духоўна. Гэта за нашы грахі Езус аддаў жыццё! За кожнага з нас быў распяты!*

*Успамінаю, што падчас Крыжовага шляху адчуваў скептычныя позіркі ў натоўпе зявак, падобна Езусу, на якога людзі глядзелі як на злачынцу: коса, з недаверам, агідай. Розніца толькі ў тым, што тады пра Збаўцу маглі яшчэ не ведаць. Сёння, напэўна, няма чалавека, які б не чуў пра Хрыста. Жывем у хрысціянскім свеце – большасць людзей у нашым грамадстве ахрышчаная. Але многія забываюцца, якім коштам былі адкуплены. Крыжовы шлях нагадвае кожнаму чалавеку пра тое, наколькі ён дарагі Пану.*

*Я б разглядзеў такога тыпу рэлігійную практыку як від новай евангелізацыі. Гэта спосаб, каб выйсці на вуліцу да людзей і паказаць, што Езус ходзіць паміж намі і сёння, дапамагае несці крыж на дарозе нашага жыцця. Калі асоба пачынае разважаць над гэтым, адбываецца момант сустрэчы чалавека з Богам, момант ацалення яго душы. Хвала Пану!*

*Як святар хутка буду праводзіць набажэнствы Крыжовага шляху. Сваёй задачай стаўлю данесці людзям любоў Бога, каб яны паверылі ў яе, дасведчылі і пасля маглі жыць гэтай праўдай штодня.*

# РАНАМІ ЯГО МЫ АЗДАРОЎЛЕНЫ



Песні жальбы… Год за годам падчас Вялікага посту, здаецца, нічога новага, незвычайнага – тыя самыя малітвы і спевы, тыя ж словы. І мы прызвычаіліся да гэтага. Выконваем хутчэй “бо так трэба”, чым “гэтага прагну” – даніна традыцыі! Але калі ўдумацца ў сэнс велікапосных набажэнстваў, калі прапусціць іх глыбока праз сваё сэрца, то такім, як раней, Табе ўжо не быць…

У спякотнай пустыннай краіне прапаведаваў Юнак. Ён гаварыў, што Бог адзін, што Ён міласэрны і любіць кожнага чалавека. Простая для сённяшніх, але такая далёкая для людзей таго часу ісціна. Здавалася б, гэта самае лёгкае – паверыць, што, нягледзячы на тое, які Ты, не зважаючы на Твае грахі, ёсць Нехта, хто Цябе ўсё роўна любіць, прабачае і ў любую хвіліну гатовы прыйсці на дапамогу.

Але тое падалося занадта складана, незразумела ці… страшна? І гэтага Юнака адправілі да Понція Пілата, каб вырашыў, што з Ім рабіць. Пазіраючы зверху на тлум, пракуратар бачыў толькі разгневаных гараджан. Юнак жа ведаў кожнага. Менавіта гэтыя твары нядаўна ўсміхаліся, усцілаючы Яго шлях пальмавымі галінкамі. І гэтыя ж твары цяпер сказіла грымаса агіды, рукі накіраваліся ўгору, а з вуснаў гучна данеслася: “На крыж!”. Ён заглянуў у душу кожнаму. І адзін з тлуму апусціў вочы: яму не хапіла смеласці ўзняць позірк, каб паглядзець на Асуджанага.

Некалькі дзён таму ў Аліўным садзе Юнак прасіў не за сябе нават, за кожнага з нас. Ён хацеў толькі аднаго – не заставацца сам-насам з тым страхам, з тым болем, набліжэнне якога адчуваў у хуткім часе. Ён адчуваў сябе так, як чалавек, якога ў самы важны, хвалюючы момант пакінулі сябры. І калі выйшаў з саду, абліты потам і слязамі, зрабіў заўвагу. Адзін з прысутных там апусціў вочы долу, ад сораму не маючы сіл падняць іх угору.

Падчас бічавання Чалавек, пазіраючы праз слёзы, напэўна, шкадаваў кожнага свайго праследавацеля, кожнага, хто так ці інакш быў звязаны з Яго цярпеннем. З любоўю Ён пазіраў на аднаго з прысутных, а той не ведаў, куды падзець свае вочы. Брыдка яму рабілася кожны раз, калі Чалавек скіроўваў на яго погляд, бо разумеў, што таксама прычыніўся да гэтага болю, з-за чаго пакуты толькі большаюць.

А праз сотні, тысячы гадоў той Чалавек запрашае праз святара наведаць Яго ізноў, пабыць побач, пранесці разам з Ім неверагодна цяжкі Крыж, абцерці твар, заліты кроўю і потам. Ён запрашае і да сваёй Маці, сэрца якой перапоўнена болем, голас якой дрыжыць ад невымернага гора. Ты павінен быць тут і цяпер, інакш вера губляе сэнс! А што калі пробашч з амбоны ў каторы раз нагадвае пра Крыжовы шлях, адмахваешся, нібы гэта “ўсяго толькі традыцыя”? Чаму тады ў душу закрадаецца нейкае адчуванне, падобнае да пачуцця віны?

Можа, там, у садзе, у тлуме і на Галгофе Збаўца бачыў менавіта Твае апушчаныя вочы? Можа, гэта Ты не прыйшоў, не наведаў Езуса ў самы цяжкі момант жыцця? Так, складаць пальмавыя галінкі пры добрым раскладзе не цяжка. А Ты паспрабуй быць побач з Ім і на Галгофе, і ў тым самым тлуме! Ахвяруй свой час, каб быць з Хрыстом тут і цяпер, кожны наступны дзень. І Ты атрымаеш нешта намнога больш каштоўнае. Ды і сам добра ведаш, чыімі ранамі нашы душы аздароўленыя…

*Марыя Валюк*

# ПЕРАСТУПІЦЬ ПРАЗ СЯБЕ, КАБ ДАВЕРЫЦЦА ЕЗУСУ

*У пэўны горад прыехаў акрабат. Ён расцягнуў паміж 2-ма высоткамі канат. Знізу сабраліся людзі, зацікаўленыя гэтай падзеяй. Акрабат спытаўся: “Ці верыце, што я прайду па гэтым канаце і нічога са мной не зробіцца?”. Адны адказалі, што вераць. Іншыя мелі сумненні. Мужчына спрытна прайшоўся па канаце. Яго подзвіг быў узнагароджаны гучнымі воплескамі.*

*Акрабат зноў стаў перад сабранымі, на гэты раз з тачкай. І зноў задаў пытанне: “Ці верыце, што я прайду па гэтым канаце з тачкай?”. Людзі, бачачы, што мінулым разам яму ўдалося і зрабіў гэта так лоўка, нібы ішоў па цвёрдай зямлі, у большасці крыкнулі што вераць, хоць і цяпер знайшлося некалькі недаверлівых. Акрабат зноў узабраўся на будынак і, піхаючы перад сабой тачку, без цяжкасцей прайшоўся па канаце.*

*Пасля гэтага мужчына задаў чарговае пытанне: “Ці верыце, што я прайду па гэтым канаце з тачкай, у якой будзе сядзець чалавек?”. Гэтым разам усе аднадумна пацвердзілі, што вераць. Тады акрабат спытаўся: “А хто з вас добраахвотна сядзе ў тачку?”. Навісла цішыня. Ніхто не хацеў рызыкнуць сваім жыццём і даверыцца ў рукі акрабату.*

Падобным чынам можа адбывацца таксама з нашай верай і даверам да Бога. Мы верым, што Усемагутны прагне дабра для кожнага, але так цяжка бывае аказаць поўны давер і адважна кінуцца ў абдымкі Айца будучы ўпэўненым, што Ён схопіць. Дык што азначае абсалютны давер? І чаму мы павінны ставіць Бога на найвышэйшую прыступку п’едэстала ў сваім жыцці, ускладаць на Яго надзею і веру?

**Давяраць Богу – значыць...**

- **не баяцца Яго.** Калі ўчынім грэх, калі не зможам справіцца са сваёй слабасцю, хочам схавацца ад Бога, так, як гэта зрабіў Адам у Раі. Саромеемся, баімся, што нас адштурхнуць, асудзяць. А Стварыцель, хоць Яго і абражае грэх, хоча, каб менавіта да Яго мы без боязі і з даверам прыйшлі. Так Езус сказаў св. Фаўстыне: “Няхай не баіцца наблізіцца да Мяне слабая, грэшная душа, нават калі мае больш грахоў, чым пяску на зямлі. Усё патоне ў глыбінях Маёй міласэрнасці” (Дз. 1059). Не трэба баяцца аказваць давер Богу ва ўсім.
- **даручаць Яму сябе і сваё жыццё.** Трэба мець упэўненасць, што Айцец міласэрны і Ён не адштурхне. Пры гэтым варта памятаць абяцанне Збаўцы: “Чым больш даверыцца душа, тым больш атрымае. Вялікім суцяшэннем для Мяне з’яўляюцца душы з бязмежным даверам, бо ў іх уліваю ўсе скарбы сваіх ласкаў” (Дз. 1578).
- **чакаць Яго дапамогі.** У складаныя моманты неабходна разлічваць на падтрымку Бога, бегчы да Яго, як дзіця да маці. Не мець сумненняў, верыць, што Усемагутны стрымае абяцанні, заключаныя ў Божым слове, і не толькі адносна іншых, але і адносна мяне.

Калі мы прымаем Хрыста як свайго Збаўцу, Божы Дух зыходзіць на нас, уваходзіць у нашыя сэрцы і застаецца ў іх. Гэта адно з найбольшых блаславенняў. Мы ж са свайго боку павінны ўважліва прыслухоўвацца да Яго голасу.

Каб сапраўды давяраць Богу і чуць Яго голас, трэба рэгулярна чытаць Святое Пісанне. Разважаючы тэксты Старога і Новага Запавету, мы будуем у сабе моцны дух. Дзякуючы гэтаму можам чуць словы, якія Бог скіроўвае ў наша сэрца, і прымаць рашэнні згодна з Яго воляй, а не на аснове ўласных домыслаў і жаданняў. “Усім сэрцам даверся Богу, не спадзявайся на ўласны розум, думай аб Ім як аб дарозе – і Ён выраўняе твае сцежкі” (Прып 3, 5–6).

“Езу, давяраю Табе!”. Прамаўляючы гэтыя словы, мы павінны засяроджвацца над іх асаблівым сэнсам і паўтараць іх з глыбокай свядомасцю. У той жа час варта разумець, што для Хрыста больш важна перакананне сэрца, канкрэтныя жыццёвыя рашэнні, утоеныя за гэтымі словамі.

*Падрыхтавала Кінга Красіцкая*




Catholic.by

***“Марафон споведзі” прайшоў у Мексіцы***

***Дзень прабачэння распачаўся ў Папяльцовую сераду і працягваўся 58 гадзін без перапынку. Яго галоўнай мэтай была падрыхтоўка вернікаў да Вялікага посту.***

*“Мітрапалітальная катэдра як маці ўсіх касцёлаў архідыяцэзіі і сядзіба біскупа з’яўляецца канкрэтным пунктам адліку для служэння прабачэння, якое мы здзяйснем разам з Пастырам”, – сказаў кс. Рыкарда Валенцуэла, рэктар катэдры Мехіка.*

*“Марафоны споведзі” ў мясцовай катэдры сталі ўжо традыцыйнымі ў перыяд Вялікага посту і Адвэнту, служачы духоўнай падрыхтоўкай да Вялікадня і Божага Нараджэння. Вопыт мінулагодніх душпастырскіх акцый паказаў, што падзея карыстаецца ў вернікаў папулярнасцю.*




***Папа даў пачатак рэгістрацыі на Сусветныя дні моладзі***

***Святы Айцец Францішак зарэгістраваўся як першы ўдзельнік моладзевага форуму.***

*Гэта адбылося перад натоўпамі вернікаў, сабраных на плошчы св. Пятра на малітве “Анёл Панскі”. “Запрашаю ўсіх маладых людзей свету перажыць з верай і энтузіязмам гэтую падзею ласкі і братэрства, збіраючыся ў Панаме або прымаючы ўдзел у ёй у сваіх супольнасцях”, – сказаў Пантыфік.*

*XXXIV Сусветныя дні моладзі ў Панаме пройдуць 22–27 студзеня 2019 года пад дэвізам “Вось я, слуга Пана. Няхай мне станецца паводле твайго слова” (Лк 1, 38).*




***Касцёл на Алімпіядзе ў Пхёнчхане***

***Каталіцкі Касцёл у Карэі забяспечвае душпастырскую апеку ўдзельнікам сёлетніх зімовых Алімпійскіх гульняў.***

*У алімпійскай вёсцы знаходзіцца кс. Фрэнсіс Лім і-Джун, дырэктар аддзела душпастырства моладзі Сеульскай дыяцэзіі. Да душпастырскай апекі далучылася таксама дыяцэзія, на тэрыторыі якой знаходзяцца алімпійскія аб’екты.*

*У парафіях, што месцяцца побач, раздаюць улёткі на англійскай мове з інфармацыяй аб гадзінах набажэнстваў, і на 8-мі розных мовах – пра Каталіцкі Касцёл у Карэі, падрыхтаваныя мясцовай Канферэнцыяй епіскапату.*



# Вынікі візіту ad limina Apostolorum 2018

## ХРАНАЛОГІЯ ПАДЗЕЙ

• працяг са с. 1

### 31 студзеня

Біскупы прынялі ўдзел у агульнай аўдыенцыі Святога Айца Францішка на плошчы св. Пятра. Традыцыйна пасля папскай катэхезы прысутныя іерархі з розных частак свету, у тым ліку з Беларусі, мелі магчымасць асабіста прывітаць Пантыфіка і абмяняцца з ім некалькімі словамі.

### 1 лютага

Біскупы афіцыйна пачалі свой візіт з малітвы ў Ватыканскіх гротах у інтэнцыі Беларусі і яе жыхароў. На магіле апостала Пятра ў пячорах старажытнага некропаля іерархі цэлебравалі св. Імшу. На заканчэнне ў цішыні памаліліся перад грабніцамі св. Яна Паўла II і св. Язафата Кунцэвіча.

Затым біскупы прынялі ўдзел у прыватнай аўдыенцыі са Святым Айцом Францішкам. У ходзе сустрэчы біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч паведаміў, што Гродзенская дыяцэзія не так даўно адзначала юбілей 25-годдзя свайго заснавання, а ў мінулым годзе распачала гістарычную падзею, якой з'яўляецца I Дыяцэзіяльны сінод. "Няхай сінадальныя пасяджэнні паспрыяюць таму, каб Евангелле для вернікаў дыяцэзіі стала больш зразумелым, а чалавек быў бліжэй да Пана Бога і Яго ласкі, якую Той яму штодзённа спасылае", – пажадаў Пантыфік.



Падчас сустрэчы іерархі размаўлялі з Папам аб папярэдніх пакаленнях, заслужаных і руплівых святарах, дзякуючы якім вера на нашых землях не загінула, а таксама аб пакліканнях, фармацыі і жыцці святароў, адносінах з дзяржавай і іншымі веравызнаннямі. Святы Айцец выказаў вялікую зацікаўленасць рэлігійным жыццём вернікаў і, разам з тым, высока ацаніў мясцовыя душпастырскія ініцыятывы.

Асаблівым чынам Пантыфік засяродзіўся на сучасным пакаленні моладзі, а таксама на тым, як для яе арганізавана душпастырства. "Я адзначыў, што мы стараемся выходзіць насустрач маладым людзям, – паведаміў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, старшыня Рады па справах свецкіх і моладзі пры ККББ. – Ускладаем вялікую надзею на тых маладых людзей, якія прысутныя ў Касцёле. Клапоцімся, каб яны былі «апосталамі» для аднагодкаў. Вядома, слова дасягае хутчэй і лягчэй, калі малады звяртаецца да маладога: тады няма бар'еру".

Сустрэча доўжылася 2,5 гадзіны. Разам з Папам біскупы прамовілі малітву, а на заканчэнне атрымалі апостальскае благаслаўленне, якое было ўдзелена ім і праз іх – усім вернікам Касцёла ў Беларусі. "Мы вельмі шчаслівыя, што маглі сустрэцца з Папам. Адчувалі сябе ў гэты час так, як бліжэйшыя вучні побач з Хрыстом, калі маглі пытаць Святога Айца і дзяліцца з ім тым, чым жыве наш Касцёл у Беларусі", – падсумаваў сустрэчу са Святым Айцом біскуп Юзаф Станеўскі.

У другой палове дня іерархі наведалі Папскую Раду па інтэрпрэтацыі заканадаўчых тэкстаў, дзе атрымалі ўказанні для далейшага плённага развіцця лакальнага Касцёла. У гэты ж дзень адбылася сустрэча ў Кангрэгацыі па справах духавенства.

### 2 лютага

Біскупы наведалі Кангрэгацыю па справах інстытутаў кансэкраванага жыцця і таварыстваў апостальскага жыцця, Кангрэгацыю каталіцкай адукацыі. Кампетэнтныя спецыялісты ведамстваў Святога Пасаду звярнулі ўвагу на неабходнасць арганізацыі прынамсі пачатковай фармацыі на тэрыторыі Беларусі, а не за мяжой (наколькі гэта магчыма ў мясцовых рэаліях). Вырашэнню гэтай праблемы магло б спрыяць стварэнне адзінага цэнтра фармацыі для некалькіх супольнасцей кансэкраванага жыцця. Яны таксама парэкамендавалі звярнуць увагу на падрыхтоўку свецкіх лідараў з дапамогай арганізацыі летніх курсаў пры навучальных установах у Касцёле ў Беларусі.

У канцы дня біскупы канцэлебравалі Эўхарыстыю з папам Францішкам у базіліцы св. Пятра, дзе ў свята Ахвяравання Пана асабліва маліліся за кансэкраваных асоб. Пасля св. Імшы іерархі наведалі духоўны цэнтр супольнасці св. Эгідзія, вядомай дзякуючы экуменічным ініцыятывам і працы з патрабуючымі ды мігрантамі.

### 3 лютага

Біскупы цэлебравалі св. Імшу ў базіліцы св. Паўла за Мурамі. У гаміліі старшыня епіскапату Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч засяродзіўся на постаці апостала Паўла: "Гэта прыклад бескарыслівага служэння Хрысту і Касцёлу, прыклад служэння біскупаў. Ці ставім мы ў цэнтр сваёй паслугі Езуса і справу збаўлення даручанага нашай пастырскай апецы Божага народу? Ці гатовы па прыкладзе св. Паўла зносіць усе знявагі, цярпенні і неразуменне сучаснага свету?". Іерарх заклікаў біскупаў адказаць на гэтыя пытанні, каб візіт ad limina Apostolorum не абмяжоўваўся толькі справаздачай аб дзейнасці лакальнага Касцёла, але і стаў часам пастырскага навяртання.

Пасля св. Імшы іерархі наведалі дом манаскай супольнасці "Дзейнасць Касцёла", галоўным заданнем якой з'яўляецца евангелізацыя.

### 4 лютага

Біскупы наведалі генеральны дом Кангрэгацыі Сясцёр Змёртвыхпаўстання Пана нашага Езуса Хрыста. У капліцы манаскага дома іерархі цэлебравалі Эўхарыстыю.

*Кангрэгацыя сясцёр змёртвыхпаўстанак мае шмат агульнага з Беларуссю. Яе заснавальніца Цэліна з Хлюдзінскіх Баржэнцкая 22 гады пражыла ў Абрэмічыне каля Гродна. Пасля смерці мужа ў 1891 годзе разам са сваёй дачкой Ядзвігай выехала ў Рым і заснавала манаскую супольнасць, харызмай якой з'яўляецца хрысціянская адукацыя і выхаванне дзяўчат.*

### 5 лютага

Біскупы наведалі Кангрэгацыю Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў. Прэфект кангрэгацыі кардынал Рабэр Сара звярнуў увагу іерархаў на неабходнасць паглыблення сярод вернікаў сэнсу літургіі і захавання народнай набожнасці, дзякуючы якой людзі зберагалі веру ў часы ганенняў. Пасля біскупы наведалі базіліку св. Яна на Латэране, дзе цэлебравалі св. Імшу.

Дзень завяршыўся візітам іерархаў у Дзяржаўны сакратарыят Апостальскай Сталіцы, дзе біскупы сустрэліся з кіраўніком Другой яго секцыі (адпаведнік міністра замежных спраў) арцыбіскупам Полам Рычардам Галахерам.



### 6 лютага

Біскупы наведалі Кангрэгацыю па справах біскупаў, Кангрэгацыю веравучэння, Папскую раду спрыяння хрысціянскаму адзінству, а таксама сустрэліся з Дзяржаўным Сакратаром Апостальскай Сталіцы кардыналам П'етра Паралінам.

У рамках дыскусіі прэфект Кангрэгацыі па справах біскупаў кардынал Марк Уэле выказаў заклапочанасць служэннем у Беларусі замежных святароў і святароў, якія прыбываюць у краіну як госці або турысты. Паводле мясцовага заканадаўства, ім неабходна атрымліваць ад дзяржаўных органаў дазвол на тое, каб цэлебраваць св. Імшу, з чым кардынал сутыкнуўся на ўласным вопыце падчас свайго прабывання ў Беларусі. Па словах папы Францішка, "гэта супярэчыць агульнай тэндэнцыі інтэрнацыяналізацыі Паўсюднага Касцёла".

Падчас сустрэчы біскупаў з Дзяржаўным Сакратаром Яго Святасці папы Францішка кардыналам П'етра Паралінам была абмеркавана справа падрыхтоўкі пагаднення (канкардату) паміж Беларуссю і Апостальскім Пасадам і пытанне візіту Пантыфіка ў Беларусь.

### 7 лютага

Іерархі цэлебравалі Эўхарыстыю ў базіліцы Маці Божай Вялікай, наведалі Дыкастэрыю па справах свецкіх, сям'і і жыцця, Кангрэгацыю па справах Усходніх Касцёлаў, а таксама генеральны дом айцоў марыянаў.

Супрацоўнікі Дыкастэрыі па справах свецкіх, сям'і і жыцця выказалі гатоўнасць дапамагчы Беларусі ў арганізацыі пілігрымак на Сусветны дзень моладзі ў Панаме ў 2019 годзе і Сусветны кангрэс сем'яў у Ірландыі ў 2018 годзе, а таксама паведамілі аб жаданні больш цеснага супрацоўніцтва з адпаведнымі структурамі Каталіцкага Касцёла ў краіне.

### 8 лютага

Перад вяртаннем на Радзіму біскупы Беларусі цэлебравалі св. Імшу перад грабніцай св. Яна Паўла II у базіліцы св. апостала Пятра. Ва ўступным слове старшыня епіскапату Беларусі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч падкрэсліў, што на завяршэнне візіту ad limina Apostolorum іерархі прыйшлі падзякаваць Папе славянскага паходжання за адраджэнне структур Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, што стала магчымым і адбылося ў значнай ступені менавіта дзякуючы яго заслузе.

Пасля св. Імшы біскупы вярнуліся самалётам у Беларусь.

**Прадстаўнікі ККББ наведалі разнастайныя ведамствы Святога Пасаду, каб прадставіць лакальную сітуацыю ў розных галінах душпастырства і пракансультавацца адносна існуючых праблем. Падобныя сустрэчы "да апостальскіх парогаў" прадстаўляюць пастырам дыяцэзій цудоўную магчымасць мацней адчуць пульс Паўсюднага Касцёла і ўбачыць глыбокае значэнне супольных намаганняў на карысць Бога і Яго люду.**

*Кс. Юрый Марціновіч і Ангеліна Пакачайла*

*Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч, старшыня ККББ*



*За апошнія 9 гадоў ад моманту апошняга візіту епіскапату Беларусі ad limina Apostolorum сітуацыя ў нашым Касцёле моцна змянілася. Па-першае, стала ў 2 разы больш біскупаў. Па-другое, паўсталі новыя касцёльныя структуры, былі рэалізаваны шматлікія душпастырскія праекты. Вельмі ўдзячны Святому Айцу і кіраўнікам усіх ватыканскіх кангрэгацый. Яны падкрэслілі дынамізм нашага Касцёла, яго ўзрост і актыўнасць. Адначасова з гэтым, заахвоцілі і падказалі, у якіх напрамках нам неабходна далей развіваць душпастырства. У цэлым, дзейнасці Касцёла ў Беларусі была дадзена добрая ацэнка. Усюды нам жадалі: "Наперад!".*

## НАВІНЫ



### Сусветны дзень хворых

Да Сусветнага дня хворых, які адзначаецца ва ўспамін аб'яўлення Маці Божай у Лурд, душпастыры, якія нясуць паслугу ў шпіталях на тэрыторыі Гродзенскай дыяцэзіі, арганізавалі супольныя малітвы з пацыентамі, іх блізкімі і медыцынскім персаналам. У капліцах пры бальніцах былі цэлебраваны св. Імшы.

Дзень хворага таксама зладзілі ў шматлікіх парафіях, дзе святары разам з вернікамі маліліся за ўсіх людзей пажылога ўзросту, хворых і церпячых. У некаторых касцёлах папярэдне быў замоўлены транспарт, каб хворыя маглі трапіць у гэты дзень у святыню і атрымаць намашчэнне лба і рук святым алеем, што дапамагае не страціць у пакутах і болі веру ў Бога і вечнае жыццё.

З нагоды Сусветнага дня хворых пры Гарадской клінічнай бальніцы №2 г. Гродна адбылося асвячэнне хоспіса, якое здзейсніў а. Павел Раманчук OFMConv, вікарый парафіі Маці Божай Анёльскай. Да гэтай даты выдавецтва Гродзенскай дыяцэзіі выпусціла "Малітоўнік для хворых". У ім на 2-юх мовах – беларускай і польскай – змяшчаюцца малітвы для церпячых і тых, хто іх падтрымлівае.

## ДАБРАЧЫННАЕ ТАВАРЫСТВА "КАРЫТАС"




Нацыянальны "Карытас" арганізаваў пры парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы трэнінг "Сплануй сваю будучыню". Яго правёў аналітык па фінансавай адукацыі і развіцці патэнцыялу арганізацыі Ігар Мікульчык. Удзельнікі семінара мелі магчымасць узбагаціцца неабходнымі ведамі ў справе планавання сямейнага бюджэту. Вучыліся вызначаць мэты і прыярытэты пры фарміраванні сметы, будаваць стратэгіі, якія дазваляюць рэалізаваць асабістыя фінансавыя планы.

## КУЛЬТУРНЫЯ ПАДЗЕІ



Музычная група "BoscoBand" (Мінск) дала канцэрт у парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Дзятлаве. Гурт душпастырства студэнтаў і старэйшай моладзі "OPEN" з Гродзенскай дыяцэзіі выступіў у Баранавічах на VII Фестывалі духоўнай музыкі "Дастукацца да нябёсаў".

На міжнародных спаборніцтвах па футболе ў Варшаве (Польшча) хлопцы з парафіі свсв. апосталаў Пятра і Паўла ў Іўі занялі І месца. І і ІІІ месцы прывезлі з XXVII Міжнароднага турніру па футболе сярод дзяцей і моладзі, які таксама праходзіў у Варшаве, каманды з гродзенскіх парафій Найсвяцейшай Панны Марыі Вастрабрамскай Маці Міласэрнасці і Божай Міласэрнасці. На XII Чэмпіянаце Еўропы па міні-футболе сярод каталіцкіх святароў, які адбыўся у Брэшыа (Італія), зборная Беларусі стала 10-ай.

## АДНЫМ РАДКОМ

• Каля 20-ці ксяндзоў ад 1-го да 8-мі гадоў святарства прынялі ўдзел у фармацыйнай сустрэчы ў рэкалекцыйным доме "Міласэрнасць" у Росі (дэканат Ваўкавыск). • У доме сясцёр кармэлітак ад Дзіцятка Езус у Гудагаі (дэканат Астравец) адбыліся Дні цішыні для дзяўчат на тэму "Хто я такая, і кім для мяне з'яўляецца Бог?". • Літургічная служба алтара гродзенскай парафіі Святога Духа павялічылася на 9 міністрантаў. • Біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Аляксандр Кашкевіч наведаў гала-канцэрт Міжнароднага фестывалю праваслаўных песнапенняў "Каложскі Дабравест", які адбыўся ў Гродне. • Вікарый гродзенскай парафіі Маці Божай Анёльскай а. Павел Раманчук OFMConv асвяціў 2 гарадскія прадуктовыя крамы. • Ліфт шматпавярховага дома ў Мінску ўпрыгожылі літаграфіяй карціны з выявай гродзенскага катэдральнага касцёла св. Францішка Ксаверыя.

*Агляд навін падрыхтаваны на аснове інтэрнэт-старонкі **grodnensis.by**.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

**21 лютага 1979 г.** – кс. Станіслаў Казлоўскі, *проб. Баруны;*
**23 лютага 1985 г.** – кс. Уладзіслаў Мончка, *проб. Лунна;*
**28 лютага 1947 г.** – кс. Юзаф Плева, *проб. Астрына;*
**28 лютага 1996 г.** – а. Генрых Навакоўскі OFMConv., *проб. Жодзішкі;*
**1 сакавіка 2000 г.** – кс. прэлат Юзаф Грасэвіч, *проб. Каменка.*

## АНОНСЫ

### 23 ЛЮТАГА – ДЗЕНЬ ПОСТУ І МАЛІТВЫ ЗА МІР

**З такой ініцыятывай выступіў Святы Айцец.**

Папа Францішак вырашыў абвясціць пятніцу першага тыдня Вялікага посту асаблівай. Дзень посту і малітвы за мір арганізуецца перадусім у інтэнцыі народаў Дэмакратычнай Рэспублікі Конга і Паўднёвага Судана.

*Пантыфік заахвочвае ўсіх людзей добрай волі падтрымаць гэтую ініцыятыву.*

### У ГРОДЗЕНСКІМ ПАБРЫГІЦКІМ КАСЦЁЛЕ РАСПАЧЫНАЕЦЦА КУРС "АЛЬФА"

**Першая сустрэча адбудзецца 28 лютага ў 19.00. У праграме кожнага спаткання – вячэра, выклад тэмы і свабодная дыскусія па пытаннях, якія цікавяць удзельнікаў.**

"Альфа" – гэта цыкл размоў пра хрысціянства, адкрыты для ўсіх людзей незалежна ад веравызнання. Асаблівасць курса заключаецца ў тым, што ён дазваляе ўдзельнікам абмеркаваць духоўныя пытанні ў нефармальнай абстаноўцы. Гэта ўнікальная магчымасць падзяліцца ўласнымі думкамі, вопытам і выслухаць меркаванні розных цікавых людзей.

*Запісацца на курс можна да 21 сакавіка на сустрэчах, якія будуць праходзіць па серадах у 19.00.*

### ПАРАФІЯ СВ. СТАНІСЛАВА КОСТКІ Ў ВАЎКАВЫСКУ АРГАНІЗОЎВАЕ АЎТОБУСНЫЯ ПІЛІГРЫМКІ

**Праграмай паломніцтваў прадугледжваецца наведванне вядомых святынь і месцаў, дзе знаходзяцца рэліквіі слаўных святых.**

***Пілігрымка ў Італію***
**Маршрут:** Ваўкавыск – Вена – Венецыя – Падуя – Сан-Джавані-Ратонда – Монтэ-Сант-Анджэла – Рым – Кашыя – Асізі – Чанстахова – Ваўкавыск.

*Выезд 27.04.2018 у 14.00. Працягласць – 9 дзён.*

***Пілігрымка ў Меджугор'е***
**Маршрут:** Ваўкавыск – Будапешт – Мостар – Меджугор'е – Дуброўнік – Спліт – Ваўкавыск.

*Выезд 15.06.2018 у 14.00. Працягласць – 7 дзён.*

***Пілігрымка ў Лурд***
**Маршрут:** Ваўкавыск – Банэ – Парыж – Санта-Тэрэза – Лурд – Арс – Страсбург – Ваўкавыск.

*Выезд 20.09.2018 у 14.00. Працягласць – 7 дзён.*

*Даведкі па тэлефоне: (8 029) 313-65-64, кс. Алег Дуль.*



**У мінулым нумары газеты "Слова Жыцця" за 4 лютага 2018 года на с. 6 быў апублікаваны артыкул пад назвай "Не рабіце жорсткімі вашыя сэрцы". Ён суправаджаўся фотаздымкам ілюстратыўнага характару, які меў на мэце паказаць адваротны бок апісаной у тэксце праўды. Такім чынам, паўстала верагоднасць няправільнай інтэрпрэтацыі фота згодна з закладзеным у артыкуле сэнсам. Рэдакцыя перапрашае за ўзніклыя непрыемнасці чытачоў, аўтара тэксту і асоб на фотаздымку.**

## Каляндар падзей

***18 лютага***
*І Нядзеля Вялікага посту.*

***22 лютага***
*Свята катэдры св. апостала Пятра. Заахвочваем да малітвы ў інтэнцыі Святога Айца Францішка і Паўсюднага Касцёла.*

***25 лютага***
*ІІ Нядзеля Вялікага посту. Падчас пакаяннага перыяду заахвочваем да ўдзелу ў Песнях жальбы і Крыжовым шляху.*

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

***"Голас Евангелля"***
*Разважанні над Божым словам. Выходзіць па Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.*

***Навіны з Ватыкана па-беларуску***
*Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі; на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.; у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace". Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.*

## Ружанцовыя інтэнцыі

***Люты***
*Каб духавенства і вернікі дыяцэзіі старанна і адказна клапаціліся аб развіцці здаровай набожнасці і вернасці Папе ды навуцы Паўсюднага Касцёла.*

***Сакавік***
*Каб духавенства і вернікі, уцягнутыя ў справу арганізацыі І Дыяцэзіяльнага сінода, былі напоўнены дарамі Святога Духа і належным клапатам пра карысць дыяцэзіяльнага Касцёла.*




## Чаму Вялікі пост з'яўляецца асаблівым часам навяртання?



У Касцёле распачаўся Вялікі пост. Першым днём гэтага літургічнага перыяду з'яўляецца Папяльцовая серада, калі святар пасыпае попелам галовы вернікаў і гаворыць знамянальныя словы: "Кайцеся і верце ў Евангелле". На працягу 40-ка дзён Вялікага посту мы павінны асаблівым чынам засяродзіцца на тым, што патрабуем пакаяння, таму што грэшныя. У гэты перыяд таксама дзякуем Езусу за Яго пакуты і смерць, якую Ён прыняў з любові да кожнага чалавека.

Добра перажыць час Вялікага посту нам дапамагаюць малітва, пост і міласціна. Малітва ў гэтым літургічным перыядзе мае розныя формы – Крыжовы шлях, Песні жальбы або рэкалекцыі. Праз пост чалавек імкнецца пераключыць сваю ўвагу з матэрыяльных даброт на духоўныя. Міласціна нагадвае пра неабходнасць дабрачыннай дапамогі і клопату аб бліжніх. Усе гэтыя практыкі вядуць нас да духоўнага ўдасканалення.

Вядома, няма аніводнага чалавека, які б у сваім жыцці не дапусціў памылку. Важна ўсведамляць, што ніколі не позна стаць на правільны шлях: пакаяцца, прымірыцца і навярнуцца. Пра гэта нам нагадае наступная гісторыя Бруна Ферэра.



**Дзень і ноч каля галоўнай станцыі аднаго з вялікіх гарадоў бадзяўся натоўп людзей: валацуг, злодзеяў, імігрантаў і маладых наркаманаў. Няўзброеным вокам было бачна, што яны незадаволены і ў роспачы. Доўгія бароды, чырвоныя вочы, дрыготкія рукі, анучы, бруд. Ім былі патрэбны не столькі грошы, колькі суцяшэнне і сілы для жыцця. Але сёння амаль ніхто не можа гэтага даць.**

**На фоне такой беднасці кідаўся ў вочы адзін малады чалавек: брудны, з доўгімі і занядбанымі валасамі, які круціўся сярод іншых, быццам меў свой асабісты выратавальны плыт. Калі ўсё, здавалася, ішло блага, у самыя цёмныя моманты адзіноты і адчаю малады чалавек выцягваў з кішэні пацёртую скамячаную паперку і чытаў з яе. А затым старанна складваў і хаваў назад у кішэню. Часам ён цалаваў аркуш, прыкладваў да сэрца ці да лба. Гэта мела неадкладны эфект. Малады чалавек суцяшаўся, выпростваў плечы, набіраўся смеласці.**

**Што было напісана на гэтай таямнічай паперцы? Усяго некалькі слоў: "Маленькія дзверы заўсёды адчынены". Усё. Гэта быў ліст, які адправіў яму бацька. Напісанае азначала, што сын атрымаў прабачэнне і ў любы момант можа вярнуцца дадому. Аднойчы ноччу малады чалавек сапраўды зрабіў гэта. Знайшоў адчыненымі невялікія дзверы ў сад на заднім двары. Моўчкі ўзышоў уверх па лесвіцы і лёг спаць. Калі раніцай прачнуўся, побач з яго ложкам стаяў бацька. Яны моўчкі абняліся.**

Бог кожнаму з нас дае такія "кавалачкі паперы", праз якія нагадвае, каб мы вярнуліся да Яго, нават калі зрабілі штосьці дрэннае. Ён прабачае і чакае нашага навяртання. Варта памятаць пра гэта і асабліва ў час Вялікага посту імкнуцца быць міласэрнымі праз добрасумленнае выкананне абавязкаў, адкрытае сэрца і дапамогу іншым.

*С. Вераніка Блізнюк FMA*

## Заданне:

**разам з бацькамі зрабі крыж, які на працягу Вялікага посту будзеш упрыгожваць кветкамі ў падзяку за кожны свой добры ўчынак.**

**Чакаем Тваіх "чаму", якія можаш дасылаць на адрас рэдакцыі. На пытанні заўсёды гатовыя адказаць салезіянкі са Смаргоні.**

# Ад шчырага сэрца

### Паважанаму Ксяндзу Паўлу Калесніку

ў Дзень нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, поспехаў у душпастырскай працы, апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым і блаславёным, а Усемагутны шчодра адорвае сваімі ласкамі. Шчасці Божа!

*Сям'я Кагарка з дзецьмі, в. Навасёлкі*

### Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, штодзённай радасці і зычлівасці ад людзей навокал.

*Члены Апостальства дапамогі чыстцовым душам з Беліцы*

### Паважанаму Ксяндзу Вячаславу Матукевічу

з нагоды Дня нараджэння ад усёй душы жадаем здароўя, радасці, святла. Няхай Пан Бог надзяляе сіламі для плённай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці апекуецца Вамі. Няхай здзяйсняюцца ўсе планы і задумы, сэрца штодня поўніцца радасцю, здароўе не турбуе, а побач будуць добрыя і зычлівыя людзі. Шчасці Божа!

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Нараджэння НПМ, Дуды*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Паўлу Гардзейчыку

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай: моцнага здароўя, радасці ў сэрцы, шмат сіл і стойкасці, шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Маці Божая нястомна Вамі апекуецца, а святарская паслуга прыносіць радасць і блаславёны плён. Дзякуем за абвяшчэнне Божага слова, малітву і добрае сэрца.

*Парафіяне з Кемелішкаў*

### Паважанага Ксяндза Антонія Адамовіча

сардэчна віншуем з Днём нараджэння. Жадаем моцнай веры, душэўнага супакою, радасці, людской зычлівасці, усіх патрэбных Божых ласкаў. Няхай кожны дар, які атрымліваеце ад Пана, будзе моцнай падтрымкай на Вашым жыццёвым шляху.

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

### Паважанаму Ксяндзу Андрэю Зайко

з нагоды Дня нараджэння складаем шчырыя пажаданні. Няхай міласэрны Бог узнагародзіць Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай душпастырскай паслузе. Жадаем Божага блаславення і апекі Найсвяцейшай Маці на кожны дзень жыцця.

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Мыслюку

з нагоды Дня нараджэння перасылаем свае сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, любові, мужнасці, радасці і задавальнення ад святарскай паслугі, а таксама добрых і зычлівых людзей побач. Няхай Святы Дух атуляе Вас сваім святлом, а Маці Божая нястомна апекуецца.

*Парафіяне з Воўпы*

### Паважанаму Ксяндзу Леону Лішыку

з нагоды Імянін і Дня нараджэння шчыра жадаем моцнага здароўя, усмешкі на кожны дзень і чулых людзей побач. Няхай Пан Бог блаславляе ў штодзённай працы, адорвае сваімі ласкамі і разлівае на Вас сваю міласэрнасць. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Воўпы*

### Паважанаму Ксяндзу Леону Лішыку

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: шчодрых Божых ласкаў, блаславення і сталай апекі Найсвяцейшай Маці, дароў Святога Духа, а таксама шмат хвілін радасці на цяжкім, але найпрыгажэйшым з усіх шляхоў, які Бог выбраў для Вас.

*Ружанцовыя колы св. Юзафа і МБ Нястомнай Дапамогі, Воўпа*

### Паважанаму Ксяндзу Каноніку Віктару Велівісу

з нагоды Дня нараджэння складаем найлепшыя пажаданні. Ад усяго сэрца жадаем Божага блаславення, дароў Святога Духа, нястомнай апекі Маці Божай і добразычлівых людзей побач. Няхай здароўе будзе моцным на працягу доўгіх гадоў жыцця. Вельмі ўдзячныя Вам за святыню і за тое, што Вы з намі.

*Вернікі парафіі св. Роха з Грандзічаў*

### Паважанаму Ксяндзу Валянціну Хведуку

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, Божага блаславення на кожны дзень, нястомнай апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай Ваша жыццё будзе шчаслівым, а побач знаходзяцца толькі добразычлівыя людзі.

*Парафіяне з Беліцы*

### Паважаны Ксёндз Павел Гардзейчык!

З нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў і дароў Святога Духа. Няхай кожны дзень будзе напоўнены цяплом, радасцю, дабрынёй, любоўю і надзеяй, вера з кожным днём толькі ўзмацняецца, а ўсё запланаванае рэалізуецца з дапамогай Бога і людзей. Няхай душпастырская праца прыносіць шчодры плён, а наша малітва будзе для Вас падтрымкай у складаныя моманты.

*З памяццю ў малітве, вернікі з парафіі св. Юзафа ў Гродне*

### Паважаным Ксяндзам Аляксандру Фядотаву, Віктару Сініцкаму і Сястры Аляксандры

з нагоды Дня нараджэння складаем букет найлепшых пажаданняў: моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці і надзеі на кожны дзень, а таксама нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа і ўсіх ласкаў ад Усемагутнага. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а ўсмешка ніколі не знікае з Вашых твараў.

*Касцёльны камітэт і вернікі з парафіі Божай Міласэрнасці, Гродна*

### Паважанаму Ксяндзу Віктару Сініцкаму

з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Хрыстос, якога штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, блаславляе кожны Ваш дзень, Маці Божая ахінае сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае годна выконваць душпастырскую паслугу і нястомна адорвае сваімі дарамі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай заўсёды будзе напоўнена супакоем і любоўю!

*З павагай, Легіён Марыі і група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

### Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ясевічу

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень, радасці, стойкасці, нязгаснага запалу ў душпастырскай працы. Няхай Святы Дух асвячае Ваш жыццёвы шлях. Памятаем у малітве.

*Моладзь з гродзенскай катэдры*

### Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Фядотаву

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці, мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Езус Хрыстус заўсёды дапамагае, Найсвяцейшая Маці нястомна чувае над Вамі, а Святы Дух шчодра адорвае сваімі дарамі. Ад усяго сэрца дзякуем за ўсмешку, дабрыню, адкрытае сэрца і ахвярную працу на карысць Богу і людзям.

*З павагай, Легіён Марыі і група Добрага Пастыра з парафіі Божай Міласэрнасці ў Гродне*

### Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ясевічу

з нагоды 30-годдзя складаем сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, людской зычлівасці і Божага блаславання на кожны дзень жыцця. Няхай Маці Божая і святы Заступнік абараняюць Вас і падтрымліваюць, Дух Святы дадае сіл і стойкасці на выбраным шляху, а таксама натхнення для рэалізацыі ўсіх мар.

*Касцёльны камітэт з парафіі свсв. Космы і Дам'яна ў Астраўцы*

### Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ясевічу

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасці, людской добразычлівасці і мноства Божых ласкаў на кожны дзень жыцця. Няхай Езус Хрыстус заўсёды ва ўсім дапамагае, Маці Божая нястомна чувае над Табой, а Святы Дух штодзённа ўдзяляе свае дары.

*Бабуля Марыя, прабабуля Рэгіна і хросная з сям'ёй*

### Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віталію Внароўскаму

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя і цярплівасці на доўгія гады жыцця. Няхай кожная хвіліна будзе напоўнена любоўю, а на твары заўсёды госціць усмешка. Няхай Езус Хрыстус адорвае Вас сваімі ласкамі, Маці Божая нястомна апекуецца, а Дух Святы асвячае святарскі шлях.

*Сям'я Пілюткевіч, в. Лойкі*

### Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Шэмету

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай добры Бог апекуецца Вамі кожны дзень, узмацняючы ў веры, надзеі і любові, Найсвяцейшая Панна Марыя ахінае Вас сваёй мацярынскай апекай, Святы Дух удзяляе шчодрыя дары, а святы Заступнік асцерагае ад зла і падтрымлівае ў нялёгкай душпастырскай працы.

*Адарацыйнае кола і вернікі з парафіі Адамавічы*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця**; Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч**; Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл: **(8 0152) 75-64-38**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com**; **http://www.slowo.grodnensis.by.**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1030; тыраж 4945; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная